ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# кніга ноша

№ 47
снежань, 2017

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Людміла ПАЎЛІКАВА-ХЕЙДАРАВА:

# «Мяне выхоўвала класіка...»




**– Шаноўная Людміла Фёдараўна, у выдавецтве «Кнігазбор» у серыі Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» нядаўна выйшла Вашая новая кніга «Прыступкі да Храма Святога Духа». Чым яна адметная?**

– «Прыступкі да Храма Святога Духа» – вынік майго 35-гадовага творчага шляху ў паэзіі. Такую кнігу немагчыма было ўвасобіць ні ў адным з маіх ранейшых зборнікаў паэзіі. Увогуле, да гэтай кнігі мне патрэбна было дажыць і дарасці. Патлумачу. Шлях, даўжэйшы ад узросту Хрыста, мае быць асэнсаваны. Пад час гэтага асэнсавання мне адкрылася, што шмат вершаў з маіх папярэдніх зборнікаў паэзіі маюць працяг або развіццё ў часе, думцы, настрої, месцы дзеяння, позірку на асобныя падзеі, адлюстраваныя як у наступных зборніках, гэтак і ў новых вершах, якія склаліся цягам апошніх 12-ці гадоў. Не падзяліцца з чытачамі гэтым адкрыццём было б несумленна. Праца над новай кнігай вымагала зрабіць гэта відавочным і для чытача. Таму кніга «Прыступкі…» не ўтрымлівае раздзелы, якія б адпавядалі храналагічнай паслядоўнасці выхаду папярэдніх зборнікаў і напісання новых вершаў. Яна як бы падзеленая па светах, у якіх паралельна жыве душа. Сама я ўспрымаю «Прыступкі…» як плоць дыялектыкі паэзіі і часу ў маім жыцці. Думаю, што так і павінна было стацца, бо гэтая кніга – вынік не толькі мастацкага, але і духоўнага пераасэнсавання.

**– Як да Вас прыходзяць вершы? Дзе і калі Вам найлепей пішацца?**

– Сапраўды, вершы да мяне акурат «прыходзяць». Калі і дзе ім задумаецца. Часта – ноччу, калі ўжо засынаю. Падымацца, запісваць… Інакш на раніцу не ўспомніць. Напэўна, гэта звычка яшчэ той, маладой пары, калі пасля працоўнага дня, хатніх клопатаў і казак сыну для творчасці адзіна вольнымі заставаліся ночы. Гэтыя ночы праляталі яшчэ хутчэй, чым дні, і былі напоўненыя святлом і адчуваннем свята. У маладосці мне хапала аднаго выхаднога дня, каб аднавіць сілу. Цяпер… Цяпер стараюся працаваць удзень. Але дзень мне болей падыходзіць для прозы, якую так і пачала пісаць.

*(Працяг на стар. 7)* ➲

**Даведка «Кніганошы»:**

**Людміла Паўлікава-Хейдарава – паэтка і празаік. Аўтар кніг «Адведзіны рамонкавай паляны» (1985), «Тваё святло» (1988), «Можна і Нельга» (1988), «Купанне ў росах» (1993), «Дарт» (2002), «Плач па анёлу» (2004), «Прыступкі да Храма Святога Духа» (2017) і інш. Нарадзілася ў 1952 годзе ў мястэчку Ялізава на Магілёўшчыне. Жыве ў вёсцы Тарасава на Міншчыне.**




**Нурдквіст Свэн. Каляндная каша. Мастак Свэн Нурдквіст; пер. са швед. Надзі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 36 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 19).**

У Швецыі на Каляды дзеці чакаюць Каляднага Гнома і гатуюць яму адмысловую калядную кашу з рысу і малака. Але гномы, як і Дзеды Марозы, бываюць сапраўдныя і не. Сапраўдных гномаў ніхто не бачыць, але менавіта яны дапамагаюць людзям і ведаюць пра іх усё. Кожныя Каляды гномы вельмі чакаюць свайго каляднага пачастунку. Што можа здарыцца, калі людзі забываюць пачаставаць гномаў каляднай кашай, ты даведаешся з гэтай гісторыі.




**Бары Джэймс Мэцью. Пітэр Пэн. Пер. з англ. Уладзь Лянкевіч; маст. Кацярына Дубовік. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 192 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 20. Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostSriptum»).**

Гэта першы пераклад на беларускую мову самага знакамітага твора англійскага пісьменніка Джэймса Мэцью Бары пра заўсёднага хлопчыка Пітэра, пра чароўную краіну Неверляндыю, у якой ён жыве, пра тое, як туды трапілі Вэндзі, Джон і Майкл – дзеці з нашага свету, – і пра прыгоды, якія іх там напаткалі.




**Не маўчы па-беларуску! Каляндар на 2018 год. – Мінск: Кнігазбор, 2017.**

Як вядома, наступны год – год Сабакі па ўсходнім календары. Аўтары выдання вырашылі паказаць, што сабака і для нас не чужая істота, таму сабралі і аздобілі 12 найбольш цікавых беларускіх «сабачых» прымавак! Каляндар «Не маўчы па-беларуску» – гэта сакавітыя беларускія словы, праілюстраваныя арыгінальнымі малюнкамі на кожны дзень. Кожны месяц адзначаны адмысловай прыказкай. Аматараў нашага, роднага чакаюць 365 арыгінальных малюнкаў ад мастачкі і аўтара ідэі Дар'і Мандзік, падпісаных цікавымі беларускімі словамі і словазлучэннямі.




**Адрасы БНР. 1918–2018. Каляндар на 2018 год. – Мінск: Кнігазбор, 2017.**

Каляндар густоўна аформлены і інфармацыйны – ён змяшчае 12 будынкаў, у якіх у розны час адбываліся падзеі, звязаныя з БНР. Купалаўскі тэатр, дзе ў снежні 1917 года адбыўся гістарычны Першы Усебеларускі з'езд, дом купца Мураўёва ў Горадні, дзе месціўся ўрад БНР пасля выезду з Мінска, будынак Беларускай Місіі ў Рызе. Тут ёсць Вільня, Коўна, Прага, Талін і нават Нью-Ёрк! Кожны з «адрасоў БНР» прэзентаваны ў сучасным выглядзе, з пазначэннем цяперашняга адрасу, і даўнейшым. Дзякуючы календару любы ахвочы без праблем знойдзе дом, дзе жыў Пётра Крэчэўскі або Васіль Захарка ў Празе. Уклала каляндар гісторык Наталля Гардзіенка, а аздабленнем займаўся кіраўнік студыі «Адліга» Анатоль Лазар.




**Міхалевіч Міхась. Пра Вяллю, рыбу і рыбалку: нататкі вандроўніка з Вілейкі. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 188 с.**

Гэта кніга паўстала ад вялікага жадання аўтара распавесці пра раку Вілію – тое, што атрымалася запісаць за часы сплаваў і пешых вандровак, прыгадаць з дзяцінства і юнацтва, з размоваў са знаёмымі і незнаёмымі жыхарамі паселішчаў на берагах ракі. Прызначаецца аматарам рыбалкі, вандровак і гісторыі роднага краю.




**Мінейка Зыгмунт. З тайгі пад Акропаль: Успаміны з 1848–1866 гадоў. Пераклад, уклад., прадмова, камент. Марына Запартыка. – Мінск: Лімарыус, 2017. – 568 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Зыгмунта Мінейкі (1840–1925), грамадскага дзеяча, інжынера, вайскоўца, навукоўца, на беларускай мове друкуюцца ўпершыню. Яны адметныя тым, што адлюстроўваюць падзеі паўстання 1863–1864 гг., у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі. Аўтар праз свой уласны досвед вядзе гаворку пра падрыхтоўку да паўстання, пра ўдзельнікаў і падзеі паўстання, якія трагічна адбіліся на лёсах тых, хто да яго спрычыніўся. Успаміны ўтрымліваюць каштоўныя аўтарскія ацэнкі агульнавядомых фактаў паўстання і раскрываюць яго малавядомыя старонкі. Найбольш цікавымі з іх з'яўляюцца аповеды пра шлях у Сібір, паўсядзённае жыццё ссыльных паўстанцаў, абставіны ўцёкаў і жыццё ў эміграцыі. Выданне разлічана на гісторыкаў, краязнаўцаў і тых, хто цікавіцца падзеямі паўстання 1863–1864 гг. і лёсамі яго герояў.




**Манцэвіч Барыс. Скрыжалі майго маленства: Ваенныя ўспаміны хлопчыка з Мёршчыны. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 170 с.: іл.**

Аўтабіяграфічная кніга Барыса Манцэвіча расказвае пра лёс беларускага хлопчыка ў змрочныя гады Другой сусветнай вайны. У выніку драматычных падзей яго сям'я трапіла ў партызанскі лагер. Падчас наступлення Чырвонай Арміі ў 1944 годзе разам з іншымі дзецьмі героя кнігі перакідваюць на самалёце праз лінію фронту і неўзабаве ён трапляе ў дзіцячы дом ва ўзбекскай Фергане. Кніга нарадзілася на падставе дзённікавых запісаў, якія аўтар пачаў рабіць у 1947 годзе. Успаміны багатыя на падрабязнасці, якія можна было заўважыць толькі ў дзіцячым узросце.




**Шчур Макс. Галасы: апавяданні, аповесць. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 186 с.**

Макс Шчур (нарадзіўся ў 1977 г. у Берасці) – паэт, празаік, перакладчык, лаўрэат прэміі Ежы Гедройца 2016 года за раман «Завяршыць гештальт». У новую кнігу прозы Макса Шчура ўвайшлі апавяданні, напісаныя ў 2011–2017 гг., а таксама аповесць «Чалавек з футаралам».




**Кадарэ Ісмаіль. Хроніка ў камені: раман. Пер. з алб. Максіма Мудрова. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 216 с.**

Творчасць албанскага пісьменніка Ісмаіля Кадарэ, лаўрэата адной з самых прэстыжных літаратурных узнагародаў – Міжнароднай Букераўскай прэміі 2005 года, шырока вядомая ва ўсім свеце. У рамане «Хроніка ў камені», які непасрэдна спрычыніўся да сусветнай славы аўтара паўстагоддзя назад, вачыма хлопца-падлетка паказаны яго родны горад Дзіракастра за часамі італьянскай і нямецкай акупацыі ў Другую сусветную вайну. Гэта не толькі самы асабісты, але і самы лірычны твор жывога класіка албанскай і еўрапейскай літаратуры. Творчасць пісьменніка ўпершыню прадстаўляецца на беларускай мове.




**Кізі Кен. Палёт над гняздом зязюлі: раман. Пер. з англ. А. Знаткевіча. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 376 с. – (Серыя «Амерыканка»).**

Вялікая Сястра Брыдар упэўнена кіруе сваім аддзяленнем у Арэгонскім псіхіятрычным шпіталі, трымаючы пад няспынным кантролем пацыентаў і персанал. Але ўзорны парадак Камбіната дае расколіну, калі з'яўляецца пацыент Макмэрфі – азартны гулец, жартаўнік і валацуга. Мы бачым ягонае змаганне вачыма Праваднра Бромдэна: нібыта глуханямы індзеец-мяшанец назірае за спробамі Макмэрфі вярнуць насельнікам шпіталю годнасць і надзею. У сваім першым рамане Кен Кізі стварыў драпежны і жывы свет, у якім няпроста пабачыць падзел паміж нармальнасцю і вар'яцтвам, свабодай і адказнасцю за тых, хто ў цябе паверыў.




**Гудовіч Плат. Размова нанова: выбраныя вершы. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 52 с.**

Некалі вядомы пісьменнік Кандрат Крапіва сказаў: «За што ні бяруся, усё атрымліваецца сатыра». І ў гэтым зборніку аўтар у большасці прадстаўляе вершы ў народным стылі, бо, як вядома, людзі ніколі не супакойваюцца, каб над нечым не пасмяяцца. Але бывае, што ёсць і сур'ёзныя рэчы, калі не да смеху. Ды і плакаць не трэба. Словам, трэба быць уважлівым.




**Кустоўскі Зміцер. Прытулак. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 230 с.**

Малады эмігрант не можа разабрацца ў сваім унутраным свеце. Выдуманыя хімеры ледзь не разбураюць галоўнага героя. Ягоная барацьба – гэта барацьба з самім сабой. Што ў выніку? Аўтар не шкадуе героя – кідае яго ў самыя неверагодныя сітуацыі, прымушае рабіць неабдуманыя крокі, і ў рэшце рэшт здаецца, што выратоўвае… Адкуль ён і куды рухаецца? Гэтае і другія пытанні міжволі паўстаюць пры чытанні твора. Гэта кніга пра эміграцыю і ўцёкі ад самога сябе.




**Каліноўскі Янка. Падслуханае сьценамі шматпавярховак. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 66 с.**

«Падслуханае сьценамі шматпавярховак» – дэбютная кніга паэзіі Янкі Каліноўскага (псеўданім), маладога аўтара, народжанага ў XXI стагоддзі. Творы вызначаюцца шчырасцю перажыванняў, даверлівасцю інтанацыяў, багаццем літаратурных і музычных адсылак, пераважна мінорным настроем, лёгкім уплывам эстэтыкі неадэкадансу.




**Разанаў Алесь. Невядомая велічыня: гутаркі, артыкулы, згадкі. – Вільня: Логвінаў, 2017. – 254 с.**

Першазмест усіх вершаў – невядомая велічыня, сведчыць Алесь Разанаў. Застаючыся ў вершы, яна па-за вершам, яна відушчая, але самой яе не відаць, дзякуючы ёй кшталты набываюць азначэнні, а словы найменні, аднак сама яна ўхіляецца ад найменняў і азначэнняў, і самае большае, што верш здольны зрабіць – выявіць яе прысутнасць. Кнігу склалі гутаркі, артыкулы, водгукі, згадкі, выступленні як на беларускай мове, так і на рускай, яна напісаная ў працяг папярэдняй – «З апокрыфа ў канон» (2010).




**Севярынец Павел. Беларусалім: раман. Кніга першая Золак. – Дніпро: Середняк Т.К., 2017. – 390 с.**

У ціхай і забытай Беларусі засноўваецца штаб-кватэра карпарацыі «Непагасны свет», якая выбірае эмблемай чорны квадрат і мае мэтай ні больш, ні менш – даць усяму чалавецтву шчасце: кожнаму – пульт ад самога сябе, сваіх пачуццяў, настрояў і болю. Зорка «Непагаснага» Андрэй Белазор, ягоная каханая Вольга Васілеўская і таямнічы геній Чорнага квадрату Цімур у навагоднюю ноч трапляюць у галавакружны вір падзеяў з удзелам вышэйшых службовых асобаў Беларусі, міжнароднага капіталу ды вернікаў-хрысціянаў: евангельскага пастара Льва Каляды, пробашча Касцёла святога Роха Пятра Гарнастая і праваслаўнага анархіста Яна Яснага. Паступова робіцца зразумела, што і ў Бога, і ў д'ябла грандыёзныя планы адносна Беларусі. Краіна ператвараецца ў поле эпічнай бітвы з відам на Апакаліпсіс.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Шыдлоўскі Сяргей. Музэюм: эсэ, імпрэсіі. Ідэя кнігі і прадмова Алеся Аркуша. – Полацак: Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2016. – 156 с.**

Ці можна райцэнтру Полацку вярнуць яго страчаны ў віры стагоддзяў сталічны статус? Прынамсі, нацыянальнай культурнай сталіцы. Сяргей Шыдлоўскі спрабуе пераасэнсаваць гісторыю роднага горада, паглядзець на яе вачыма сённяшняга беларускацэнтрычнага чалавека. «Ёсць недарэчнасць у тым, што тэкст, годны міфам, прывідам, канцэнтраванаму літаратурнаму паветру Полацку дасюль не прад'яўлены свету». Піша аўтар кнігі ў эсэ «Збіранне Полацку». Але які гэта мусіць быць тэкст? Пра гэта новая кніга Сяргея Шыдлоўскага.




**Аркуш Алесь. Сядзіба: раман. – Полацак: Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2017. – 140 с.**

«Сядзіба» – чацвёрты раман Алеся Аркуша. Нічога не знікае ў невараць, кажа аўтар у сваім новым творы, усё недзе існуе ў паралельным свеце. На полацкай сядзібе адбываюцца дзіўныя здарэнні. Мэтафізічнае жыццё ценяў і прывідаў пранікае ў рэальны свет.




**Стома Іван. Па жывых сьлядах даўно памерлых продкаў: палявыя нататкі капача. – Полацак: Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2017. – 140 с.**

Напрыканцы 1990-х хлопчыка Ваню, будучага аўтара гэтай кнігі, у Полацку ведалі ўсе, хто цікавіўся гісторыяй або ўвогуле культурай роднага горада. Яго можна было пабачыць на археалагічных раскопках, на сустрэчах з пісьменнікамі і гісторыкамі, побач з будаўнікамі, якія рэстаўравалі карпусы Езуіцкага калегіуму. Аднак звычайна з самай раніцы, калі не трэба было ісці ў школу, ён вандраваў па жывых слядах даўно памерлых продкаў побач з Замкавай гарой. У дванаццаць гадоў ён трапіў у полацкія лёхі. Гэты хлопчык у старэйшых класах ужо меў энцыклапедычныя веды па гісторыі роднага краю. І не дзіўна, што так рана набыты жыццёвы досвед запатрабаваў мастацкага асэнсавання.




**Чаракова Маша, Марта Чарнова. Мікалай і птушыная нечаканасць. – Мінск: Папуры, 2018. – 32 с.: іл.**

На напісанне гэтай гісторыі нас натхніў беларускі забабон пра тое, што чалавек, на якім птушка нечакана пакінула свой «след», стане багатым. Казка створана ў межах праекта «Гэта Беларусь, дзетка!», місія якога – спрыяць пашырэнню зацікаўленасці беларускай культурай і мовай.




**Таўбін Юлі. Выбранае. Укл. А. Хадановіча. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 98 с. (Паэты планеты).**

Юлі Таўбін (1911–1937) – беларускі паэт рэдкага таленту і на дзіва ранняй творчай сталасці. Адна з найбольш недаацэненых постацяў у айчыннай літаратуры 20–30-х гадоў XX ст. Аўтар трох вершаваных зборнікаў і шасці паэмаў. Бліскучы перакладчык, які пераствараў пабеларуску вершы Генрыха Гайнэ. У апошнія гады жыцця, у цюменскай высылцы, пісаў па-руску. Разам з дзясяткамі іншых творцаў расстраляны ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 г.




**Разанаў Алесь. Перавыбранае. Уклад. Г. Кісліцынай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 112 с. (Паэты планеты).**

Алесь Разанаў (нар. 1947) – беларускі паэт-наватар, авангардыст, рэфарматар паэтычнай мовы; майстар такіх жанраў, як пункцір, версэт, квантэма, зном, злёса, вершаказ. Яго творы перакладзены на шэраг моваў свету, а некаторыя паэт сам напісаў па-нямецку і па-літоўску.




**Пастарнак Барыс. Выбраная лірыка. Пер. з рускай Рыгора Барадуліна. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 80 с. (Паэты планеты).**

Барыс Пастарнак (1890–1960) – расійскі паэт, які, нягледзячы на цяжкі для паэзіі час за рэжымамі Сталіна і Хрушчова, заўсёды заставаўся Паэтам. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры 1958 г.




**Бялік Хаім Нахман. Выбраная паэзія. Пер. з іўрыту і з ідыш. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 80 с. (Паэты планеты).**

Хаім Нахман Бялік (1873–1934), родам з украінскай Жытоміршчыны, яшчэ пры жыцці здабыў славу безумоўнага класіка габрэйскай паэзіі. Пісаў у асноўным на іўрыце, але аддаваў належнае і сваёй роднай мове, ідыш. У 1921 г. атрымаў пашпарт грамадзяніна Беларускай Народнай Рэспублікі. З 1924 г. жыў у Тэль-Авіве.




**Лесьмян Баляслаў. Выбраныя вершы. Пер. з польскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 100 с. (Паэты планеты).**

Баляслаў Лесьмян (1877–1937) – польскі паэт, празаік, літаратурны крытык. У кнігу ўлучаныя пераклады вершаў, напісаных у розныя перыяды творчасці: ад першага зборніка «Сад на раздарожжы» (1912) і да вершаў, выдадзеных пасмяротна.




**Мельнікаў Ігар. Мяжа была пад Мінскам: 1921–1941 гг. – Мінск: Альфа-кніга, 2017. – 208 с.**

Кніга прысвечаная малавядомым фактам з гісторыі даваеннай савецка-польскай мяжы ў Беларусі. Аўтар на падставе значнай колькасці архіўных дакументаў і матэрыялаў расказвае пра функцыянаванне польскага Корпуса памежнай аховы, будаўніцтва Мінскага ўмацаванага раёна РСЧА, падзеі верасня 1939 года. Асаблівая ўвага надаецца гераічнай абароне Чырвонай Арміі на лініі старой мяжы ў чэрвені 1941 года. Выданне багата ілюстраванае фотаматэрыяламі з калекцыі аўтара, а таксама – архіваў Польшчы, Галандыі, Беларусі і іншых краінаў.




**Швед Вячаслаў. Рэквіем паўстанцам 1863–1864 гг.: (Гродзенская губерня). – Мінск: Альфа-кніга, 2017. – 312 с.**

Кніга з'яўляецца рэквіемам студэнцкім паўстанцам Гродзенскага паўстанцкага ваяводства, якое ўключала сённяшнія Гродзеншчыну, Брэстчыну, Беласточчыну. Нарысы апавядаюць пра ўдзельнікаў маніфестацыйнага перыяду 1861–1862 гг., распаўсюджвальнікаў газеты «Мужыцкая праўда», сяброў падпольнай Гродзенскай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі, камандзіраў партызанскага руху і гродзенскіх паўстанцаў-гімназістаў, памочнікаў паўстанцаў, дэпартаваных са спаленых шляхецкіх ваколіцаў і вёсак. У кнізе прыводзяцца спісы партызанскіх атрадаў і страчаных паўстанцаў. Асобныя нарысы прысвечаны Кастусю Каліноўскаму («чырвонаму») і Віктару Старжынскаму («беламу»). Пазначаны месцы, звязаныя з паўстанцамі. Кніга адрасавана ўсім, хто цікавіцца грамадска-палітычным жыццём Беларусі, а таксама мінулым былой Гродзеншчыны.




**Рудовіч Станіслаў, Герасімаў Валерый. Іх звала Беларусь святая: Да 100-годдзя Усебеларускага з'езда 1917 года. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 84 с.**

Усім будзе карысна даведацца, як 100 гадоў таму адраджалася беларуская дзяржаўнасць, як, з чыёй ініцыятывы і навошта збіраўся Усебеларускі з'езд. Друкуюцца таксама асноўныя дакументы, прынятыя на з'ездзе, і ўражанні ды ўспаміны пра яго вядомых беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў. Спалучэнне ўзнёслага захаплення і гонару за сваю Бацькаўшчыну разам з навуковымі фактамі, праверанымі ў архівах, – менавіта гэта хацелі давесці аўтары чытачам.

**Міцкевіч Валер, Багданаў Уладзімір. Пазіцыі германскіх дывізій у Беларусі: Сектар Сэрвач-Вішнева. – Мінск: Тэхналогія, 2017. – 103 с.: іл. – (Памяткі Першай сусветнай).**




У другім выпуску серыі разглядаецца ўчастак абароны дывізіяў у складзе 9-й і 12-й нямецкіх арміяў працягласцю 82 км ад вёскі Сэрвач Карэліцкага раёна да вёскі Вішнева Валожынскага. На мапах, выдадзеных польскім Вайсковым геаграфічным інстытутам на пачатку дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, аўтары пазначылі фартыфікацыйныя збудаванні і вайсковыя пахаванні перыяду пазіцыйнага супрацьстаяння на Усходнім фронце ад верасня 1915 да кастрычніка 1917 г. Прааналізаваная таксама тылавая пазіцыя «Нёман», што знаходзілася за 45–50 км ад лініі фронту, як прыклад працягу стратэгічных вынаходак Генеральнага штаба Германіі ў арганізацыі «акопнай вайны». Разлічана на ваенных гісторыкаў, культуролагаў і экскурсаводаў.




**Лозка Алесь. Беларускі фальклор. – Мінск: Зміцер Колас, 2017. – 160 с.**

Выданне ў сістэматызаваным выглядзе падае асноўныя звесткі пра беларускі фальклор, яго жанры і віды (замовы, народны каляндар, каляндарна-абрадавую, сямейна-абрадавую і пазаабрадавую творчасць, празаічны, дзіцячы, тэатральны і матэматычны фальклор), што фрагментарна вывучаецца на занятках літаратуры, гісторыі, музыкі. Адрасуецца вучням і студэнтам, настаўнікам і выкладчыкам адукацыйных установаў, усім, хто цікавіцца народнай творчасцю.




**Санько Валер. Жыць – прыкметы вучыць. – Мінск: МАЭН, 2017. – 208 с.**

Прырода аздараўляе і лечыць усё жывое. Яна вучыць чалавека прадбачыць будучыню, ведаць заўтрашні дзень ужо сёння. Дасягаецца гэта ўменнем разбірацца ў прыкметах. У кніжцы ўпершыню найболей поўна прадстаўлена тая багатая плынь фальклору, якую гадамі многія не заўважалі – прыкметы. Аўтар амаль паўстагоддзя вывучаў беларускі фальклор. Ён упершыню асобна сабраў, выдзеліў прыкметы пра ганебшчыну сучаснасці – лаянку, курава, п'янства, татуіроўкі. Доказная аргументацыя пісьменніка і доктара народнай медыцыны пра непатрэбнасць утрымання кошак і сабак у гарадскіх кватэрах, карысць і шкоду сотавых тэлефонаў, інтэрнэту, пра грэх самазабойства, пакаранне кожнаму за пашкоджанне помнікаў, лішніцу ўстановак крыжоў бліз дарог.




**Бутуліс Ілгварс, Зунда Антоній. Гісторыя Латвіі. Пер. з латышскай Ягора Сурскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 336 с., іл., [16 л. іл.].**

У сваёй кнізе прафесары Латвійскага ўніверсітэта Ілгварс Бутуліс (нар. у 1948) і Антоній Зунда (нар. у 1947) у даступнай эсэістычнай форме робяць выклад гісторыі сваёй краіны ад старажытнасці да сённяшніх дзён. Значную ўвагу яны надаюць не толькі пытанням палітычнай гісторыі Латвіі, але таксама праблемам яе эканамічнага развіцця і культуры.




**Жук Ігар. Прыхінуцца да крыніцы. – Гродна: ГрДУ, 2017. – 235 с.**

«Прыхінуцца да крыніцы», апошняя кніга доктара філалагічных навук Жука Ігара Васільевіча, – глыбокае і ўдумлівае даследаванне тэмы і матыву беларускага шляху ў паэтычнай спадчыне Янкі Купалы і Якуба Коласа, асэнсаванне выключнай значнасці гэтай тэмы ў станаўленні нацыянальнай літаратуры. Адрасавана спецыялістам-гуманітарыям для далейшых навуковых пошукаў у рэчышчы тэорыі літаратуры і гісторыі беларускай літаратуры, а таксама ўсім, хто цікавіцца творчасцю беларускіх класікаў.




**Агееў Аляксандр, Пушкін Ігар. Фарміраванне і дзейнасць Магілёўскага Беларускага Камітэта (1917–1918 гг.): манаграфія. – Магілёў: МДУ імя А.А. Куляшова, 2017. – 292 с.: іл.**

У выданні асвятляецца і аналізуецца стварэнне і дзейнасць Магілёўскага Беларускага Камітэта (1917–1918 гг.) у кантэксце працэсаў нацыянальнага самавызначэння беларусаў, фарміравання беларускай дзяржаўнасці і грамадзянскай супольнасці ў пачатку ХХ ст. Упершыню ў беларускай гістарыяграфіі грунтоўна і пакрокава разглядаецца арганізацыйная, культурна-асветніцкая і грамадска-палітычная дзейнасць адной з самых паспяховых беларускіх арганізацый рэвалюцыйнай эпохі, друкуюцца шматлікія дакументы Камітэта, паказваюцца вытокі падтрымкі ідэі беларускай дзяржаўнасці, і ў прыватнасці Беларускай Народнай Рэспубліці, жыхарамі Магілёва. Адрасуецца навукоўцам, выкладчыкам, краязнаўцам, студэнтам і вучням, а таксама ўсім, хто цікавіцца айчыннай гісторыяй.




**Астапенка Анатоль. Уладзімір Конан: Творца беларускай нацыянальнай ідэі. – Мінск: «Харвест», 2017. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Уладзімір Конан (1934–2011) – вядомы філосаф, культуролаг, літаратуразнаўца. Ён плённа даследаваў гісторыю беларускай культуры і мастацтва, тэарэтычныя і метадалагічныя праблемы беларускай філасофска-эстэтычнай думкі. Ён быў «нумар першы» ў беларускай эстэтыцы і культуралогіі.

**Арлоў Уладзімір. Сяргей Грахоўскі: Пакутнік з вострым пяром. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**




Сяргей Грахоўскі (1913–2002) – выдатны паэт, пісьменнік, грамадскі дзеяч. Ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў, якія забралі ў яго 19 гадоў жыцця (1936–1955). Аўтар шматлікіх паэтычных, празаічных і публістычных твораў: 37 выдадзеных кніг, сотні артыкулаў, рэцэнзіяў, нататак. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1983).




**Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 7. Укладальнік і рэдактар А.Я. Тарас. – Рыга: выданне ІБГіК, 2017. – 204 с.**

Гэты выпуск «Запісаў ТАБГ» складаецца з чатырох частак. Першая частка (63 старонкі) прысвечана краязнаўчай канферэнцыі, якая адбылася ў Беразіно 14 чэрвеня 2016 г. Пададзены кароткая справаздача, некалькі найбольш цікавых рэфератаў і артыкулаў. У артыкулах другой часткі (36 старонак) разглядаюцца падзеі беларускай старажытнасці. Галоўны змест трэцяй часткі (64 старонкі) – крытычны разгляд падзеяў савецкага перыяду нашай гісторыі, у тым ліку міфаў гэтак званай Вялікай Айчыннай вайны. У чацвёртай частцы (38 старонак) матэрыялы пра падзеі, што датычацца жыцця ІБГіК і ТАБГ. Усе матэрыялы надрукаваны на той мове, на якой іх падалі аўтары.




**Бузук Расціслаў. Тэатр і глядач: дыялог доўжыцца...: праблемы беларускага драматычнага тэатра і аўдыторыі гледачоў у прасторы ХХ – пачатку ХХІ стагоддзя. М-ва культуры Рэсп. Беларусь, Беларус. дзярж. у-нт культуры і мастацтваў. – Мінск: БДУКМ, 2017. – 268 с.**

У манаграфіі даследуецца гісторыя станаўлення драматычнага тэатральнага мастацтва ХХ – пачатку ХХІ ст. – ад узнікнення прафесійнага беларускага тэатра ў 20-я гады мінулага стагоддзя да нашых дзён. Выяўляюцца этапы развіцця сцэнічнага мастацтва, вызначаючца яго асноўныя мастацкія і арганізацыйна-эканамічныя кірункі. Ажыццёўлена спроба абагульніць шматскладовыя ўзаемаадносіны тэатра, грамадства, аўдыторыі гледачоў, ацаніць на аснове сацыялагічных дадзеных месца тэатра ў духоўным жыцці людзей. Разлічана на спецыялістаў і практыкаў тэатра, а таксама студэнтаў, магістрантаў і аспірантаў установаў вышэйшай адукацыі і шырокае кола чытачоў.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кнічкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, januskevic.by, kniharnia.by і halijafy.by.

■ АЎТОГРАФ

# «Мяне выхоўвала класіка...»

(Пачатак на стар. 1)

**– Каго Вы лічыце сваімі настаўнікамі ў літаратуры, творчасць якіх пісьменнікаў найбольш паўплывала на станаўленне Вас як творцы?**

– Найперш выхоўвала класіка. Сусветная. Яна фармавала густ, не забіваючы штампамі маю галаву, шчыльна занятую задачамі сістэмнага праграмавання і электронікі. Дарэчы, асаблівасць класікі якраз у тым, што яна не карыстаецца штампамі, хаця спараджае іх. Класіка адчыніла акно майго жыцця ў краіну высокай Паэзіі. Але дзверы ў гэтую краіну мне адчыніла мая першая публікацыя ў часопісе «Маладосць», якая адразу атрымала прэмію часопіса за год. На тую пару аддзелам паэзіі ў часопісе загадваў Пятрусь Макаль. Я працавала тады вядучым канструктарам у адным з беларускіх НДІ, мела навуковыя працы ў галіне прыкладной матэматыкі і яшчэ не мела намеру мяняць напрамак прафесійнай дзейнасці. Але ўрокі прыгожага пісьменства, падараваныя мне выбітным паэтам, якога крытыка параўновала з Гётэ, сталіся неацэннымі ў маім лёсе. Я адкрывала для сябе зіхоткае, жывое слова Барадуліна. Неўзабаве ён, малады, усмешлівы, чупрыністы, запрасіў мяне пачытаць вершы для тэлепраграмы «Літаратурная Беларусь», якую потым вяла і я. Захапляла, несла па прасторах Радзімы трывожная, глыбокая, як цёмная плынь, паэзія Караткевіча, якога заспела пабачыць і паслухаць на ягоным 50-годдзі. А яшчэ нечакана сучасныя, мудрыя паэтычныя пошукі і знаходкі Максіма Танка, які праз некалькі гадоў павіншуе мяне з уступленнем у Саюз пісьменнікаў… Я пачувала сябе накшталт Алісы ў Краіне цудаў. Калі мне прапанавалі ехаць вучыцца на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскву, адмовілася, не хацела пакідаць сям'ю. Далей была самаадукацыя, якой паспрыяў пераход на працу ў высокапрафесійны склад супрацоўнікаў літаратурна-драматычнай рэдакцыі БТ пад кіраваннем Вольгі Іпатавай. На чале Дзяржтэлерадыё тады стаяў Генадзь Бураўкін. Зайздрошчу сабе ў тым часе. Адкрыццё за адкрыццём! Гутаркі і праграмы з пісьменнікамі, мастакамі, артыстамі, рэжысёрамі, гісторыкамі, якія складалі аснову культурнага і літаратурнага жыцця Беларусі вымушалі ад мяне ведаў на належным узроўні. Кніг на маім пісьмовым стале было вышэй ад галавы. Ды і зараз бачу апроч уласных кніг і рукапісаў – «Хроніку ў Камені» Ісмаіля Кадарэ, «Беларусалім» Паўла Севярынца, выданне «Беларускага Кнігазбору» твораў Элізы Ажэшка, «Мудрэц са ступаю» Рыгора Барадуліна, Вучэнне Храма «З горнай вяршыні», «Два жыцці» Канкордзіі Антаравай, зборнік апавяданняў «Зацесі» майго стрыечнага брата Алега Саўко, дзе я знайшла невядомыя мне раней звесткі аб родзічах, і асобным стосам – «Беларускія летапісы і хронікі», «Старыя гравіраваныя карты і планы» XV–XVIII стагоддзяў, «Гістарычныя звесткі пра адметныя мясціны ў Беларусі» генерал-маёра Без-Карніловіча, гістарычную хроніку Аляксандра Дзюма «Луі XIV і яго эпоха», «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага, «Дзевяць вякоў беларускай гісторыі» Уладзіміра Арлова з Генадзем Сагановічам, ды іншай літаратуры гістарычнага і даведніцкага характару…

**– Распавядзіце, калі ласка, нашым чытачам, што ў Вашых найбліжэйшых творчых планах?**

– Распачаты ў папярэднім пытанні спіс літаратуры ўжо, мабыць, навёў на думку пра маю патрэбу паглыбленых ведаў розных аспектаў гісторыі XVII-га стагоддзя. Так, недзе бліз сярэдзіны гэтага стагоддзя адбываюцца падзеі рамана, над якім зараз працую. Гэта новы для мяне напрамак творчасці. Не зважаючы на тое, што раман у першую чаргу прыгодніцкі, прывязка да XVII-га стагоддзя абавязвае. Магчыма, гэта адзін з самых лёсавызначальных для нашай зямлі перыядаў гісторыі. Калі зважыць на тое, што цяпер мы знаходзімся на адлегласці прыблізна ў 360 гадоў ад таго часу – лічба, якая ўвасабляе поўнае кола, лічба завершанасці, – дык маем быць сведкамі таго, што перыяд залежнасці ад вынікаў тагачасных падзей губляе моц. Але гэта матэрыял ужо для ўвагі прафесійных гісторыкаў і нават астролагаў. А мая шматгадовая праца над раманам пакуль што недзе на сярэдзіне, хаця касцяк ужо складзены. Магчыма, гэты касцяк будзе прапанаваны на публікацыю ў якасці аповесці, каб заахвоціць спонсараў на выданне рамана. Трэба загадзя думаць і пра гэты бок сучаснай рэчаіснасці.

І ўсё-ткі прыярытэт паэзіі ў маёй творчасці непахісны. Некалькі гадоў таму ў часопісе «Маладосць» былі надрукаваныя ўрыўкі з рукапісу маёй кнігі іцзін-секстэтаў «Вечаровае веча». У 2012 годзе на маім творчым вечары Алесь Разанаў зрабіў слушнае даследаванне яе матэрыялу, што натхніла мяне на далейшую працу над кнігай. Нядаўна часопіс «Роднае слова» змясціў цікавы навуковы артыкул Тацьцяны Барысюк «Варажбітныя "іцзіншасцірадковікі" Людмілы Паўлікавай-Хейдаравай як новая форма верша». Кніга, сапраўды, атрымалася нечаканай не толькі ў беларускай літаратуры, бо іншых прыкладаў такой працы невядома. Калі ўсе ведаюць, што такое вянок санетаў, дык бінарную аперацыю з дзвюма рыфмамі ў шасцірадковым вершы наўрад ці хто браў за мэту ў паэзіі. Атрымалася 64 шасцірадковікі (секстэты), што адпавядае 64-м гексагарамам Кнігі Пераменаў (Іцзін), дзе шэсць рысаў кожнай гексаграмы ўтрымліваюць адзін або два тыпы: разрывістую (жаночую) і суцэльную (мужчынскую). Так прыйшла ідэя скласці паэтычную кнігу іцзін-секстэтаў, дзе кожны шасцірадковік мае дзве або адну рыфму, якая адпавядае, да таго ж, мужчынскаму або жаночаму канчатку слова на рыфме. Кніга «Вечаровае веча» ўжо мае сваіх прыхільнікаў, хутчэй ад усяго пабачыць цалкам выданне поўнай кнігі іцзін-секстэтаў можна будзе ў наступным годзе. Але хто ведае тое? Галоўнае – творчасць. Яна патрабуе натхнення, спакою і працы, калі ведаеш, што ўсё, назбіранае вопытам, назапашанае ў думках і ў душы, аддаецца без астачы…

50.
ТАЯМНІЦА СПАКОЮ
або
КОЖНЫ МАЕ СВАЁ МЕСЦА Ў КОЛЕ ЖЫЦЦЯ

____________
_____...._____
____________
____________
____________
_____...._____

Гараць пісьмёны вогненных разлогаў –
нябёс вячэрніх патаемны сказ.
Не ўчуць, не разгадаць яго падчас.
Каму ён? Што ў ім? Жальба ці наказ?
О, як жа зразумець патрэбна многа,
каб нехта потым зразумеў і нас.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Валянцін Дубатоўка. Чужы. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 95). – 240 с.**

Галоўным творам з тых, што ўвайшлі ў новую кнігу гродзенскага мецэната і старшыні абласной філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянціна Дубатоўкі, ёсць вострасюжэтная аповесць «Чужы», якая распавядае пра жыццё ў Беларусі 1939–1950-х гадоў. У цэнтры твора – жыццё заходнебеларускага хлопца Кастуся Саўчыка, на долю якога выпалі цяжкія выпрабаванні, але не зламалі яго... Дэтэктыўнасць, псіхалагізм, трапнасць мастацкіх дэталяў уласцівыя апавяданням «Брат» і «Іосіф». Вось, як кажа пра адметнасць сваёй новай кнігі сам спадар Валянцін: «Яна для мяне вельмі значная. За свае 50 год колькі напісана, колькі ўсяго зроблена... І па-сутнасці гэтай кніжкай я падводжу рысу свайго творчага жыцця. Канешне, гэтая кніга ў першую чаргу пра каханне. Пра каханне звычайнага заходнебеларускага хлопца да дзяўчыны. Каханне няўдалае, бо часы, калі жыў галоўны герой, гэта якраз самыя трагічныя часы сучаснай беларускай гісторыі». (Радыё «Рацыя»)

**Тумас Транстромер. Пад вольным небам. Пер. са шведскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 204 с.**

Кніга выбраных вершаў шведскага паэта-нобеліста Тумаса Транстромера ў перакладзе на беларускую мову стала сумесным праектам Саюза беларускіх пісьменнікаў і Амбасады Каралеўства Швецыі ў Беларусі. Над перакладамі працаваў квартэт: Уладзімір Арлоў, Лявон Баршчэўскі, Алеся Башарымава, Андрэй Хадановіч. Укладальнікам выступіў Лявон Баршчэўскі, аўтарам прадмовы-эсэ – Уладзімір Арлоў, аўтарам паслямовы – шведскі даследчык, літаратурны крытык Ніклас Шолер, кансультантам – шведскі дыпламат і літаратар Стэфан Эрыксан.




Як адзначаецца ў анатацыі да выдання, мастацкай і чалавечай скарбонкай Тумасу Транстромеру (1931–2015), лаўрэату Нобелеўскай прэміі 2011 года, служыла сусветная літаратура. Антычныя ды біблійныя крыніцы, а таксама хрысціянская містыка і барочная паэзія ўдыхнулі жыццё ў яго тонкую і пранікнёную лірыку. Пры гэтым ён дасканала бачыў традыцыі, якімі наўпрост прасякнутая сучаснасць.




**Нурдквіст Свэн. Паляванне на ліса. Пераклад са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 16). – 32 с.**

З кнігі «Паляванне на ліса» маленькія чытачы даведаюцца, якім чынам нашыя героі збіраліся ашвадзіць ліса, які панадзіўся лазіць па куратніках суседзяў, якога гармідару яны нарабілі і што з гэтага ўсяго атрымалася.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 47
снежань, 2017
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 47 27.12.2017.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com